*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 28(362)** **22 ЛІПЕНЯ 1998 г.**

## Зварот да чытачоў і падпісчыкаў "Нашага слова".

**Дарагія сябры !**

Як вы ўжо ведаеце, у ТБМ была захоплена сядзіба на вуліцы Румянцава, якую мы займалі з 1990 года. Аднак захоп сядзібы не азначае ліквідацыі нашай арганізацыі. Праз месяц - другі мы знойдзем прытулак, а пакуль пішыце на мой адрас: Менск -95 220095 паштовая скрынка № 34, Трусаву Алегу. Не гледзячы на масаваныя напады на ТБМ, наша арганізацыя жыве і пакрысе набірае сілы. Вельмі добра сталі працаваць Віцебская абласная, Менская гарадская, Ленінская раённая (ў Менску), Лідская гарадская, Гарадзенская гарадская, Мастоўская раённая і іншыя рэгіянальныя структуры ТБМ. За апошнія два месяцы адрадзіліся раённыя арганізацыі ў Жлобіне і Горках і стварылася суполкі ў Бярозе іУздзе. Наша мэта - мець дзейсную жывую структуру ТБМ у кожным раёне. А гэта можаце зрабіць толькі Вы, руплівцы Беларушчыны, што згуртаваліся вакол "Нашага слова". Таму я прашу Вас паведаміць, ці ёсць жывыя структуры ТБМ у Вашай мясцовасці. Калі іх няма, давайце разам іх ствараць і рэгістраваць у мясцовых органах улады.

Пакуль у нас ёсць наша газета, ТБМ не загіне, але кожны з нас павінен гэтым летам паруупіцца пра яе падпіску. Справа ў тым, што мясцовыя асяродкі культуры, найперш бібліятэкі і музеі зараз могуць за бюджэтныя сродкі выпісваць толькі "Советскую Белоруссию" і "Беларускую думку" (была "Камуніст Беларусі"). Як бачым, выбар небагаты. Таму трэба шукаць спонсараў. Раю Вам звярнуцца да мясцовых прадпрымальнікаў, каб ахвяравалі нейкі мільён на падпіску для мясцовых школ, бібліятэк і музеяў. Гэта трэба рабіць зараз, каб з 1 верасня газета змагла патрапіць да чытача. Копіі квітанцый дасылайце, калі ласка, у рэдакцыю "Нашага слова", каб мы ведалі дакладную геаграфію падпіскі.

У сувязі з паступовым пераходам да рынку, не гледзячы на шалёны супраціў старых камуністычных артадоксаў, і сябры ТБМ павінны пераходзіць на навыя накірункі сваёй працы. Прывяду адзін канкрэтны прыклад. Калі Вам трапіцца ў рукі тавар зроблены у замежнай прыватнай фірме і ён не мае надпісу альбо інструкцыі на беларускай мове, не палянуйцеся, напішыце пратэст кіраўніцтву фірмы, як спажывец гэтага тавару. Вам адразу дадуць адказ і выправяць памылку. Вазьмеце звычайны курыны булён "Gallina Blanca" (Белая курыца), які вырабляюць у Іспаніі у г. Барселона. Ён мае надпісы па-беларуску, па-расейску, па-гішпанску. Давайце зробім пашырэнне нашай мовы праз рынкавыя, спажывецкія адносіны.

Калі нешта купляеце ў прыватных гандляроў, абавязкова размаўляйце з імі па-беларуску. Каб хутчэй прадаць свой тавар, яны ў адрозненні ад дзяржаўных працаўнікоў прылаўка, адкажуць Вам на Вашай мове, альбо спрыяльна да гэтага паставяцца. Бо тут Вы кіруеце балем і Вы заказваеце музыку!

У адпаведнасці з 50 артыкулам сённяшняй рэдакцыі Канстытуцыі звяртайцеся Ва ўсе дзяржаўныя ўстановы па-беларуску і ў канцы свайго звароту, ласкава прапануйце даць адказ таксама на дзяржаўнай беларускай мове. Не бойцеся чыноўніка! Хай ён ведае, што тое "двухмоўе" якое ён так любіць, каб не пісаць і не размаўляць на роднай для нас мове ў нармальных краінах Еўропы вымагае ад дзяржаўных служачых добрага валодання дзвюма мовамі, альбо нават трыма.

Хутка міне год як "Наша слова" выходзіць у свет (дарэчы не ў Менску) без усялякай дзяржаўнай падтрымкі і цалкам на грамадскіх пачатках. Аднак ніводны нумар па віне рэдакцыі не затрымаўся, колькасць накладу вырасла дзесьці на тысячу асобнікаў і газета стала больш цікавай і надзейнай. Таму не трэба апускаць рукі і наракаць на свой лёс. Мы абавязкова пераможам. Жыве Беларусь!

***Алег Трусаў, першы намеснік старшыні ТБМ імя Ф.Скарыны, сябра рэдкалегіі газеты "Наша слова".***

## Вынікі падпіскі на 3-ці квартал 1998 года

**Віцебская вобласць**

| | | |
|---|---|---|
| Бешанковічы р.в. | - | |
| Браслаў р.в. | - | 5 |
| Віцебск гор. | - | 20 |
| Віцебск РВПС | - | 1 |
| Верхнедзвінск р.в. | - | 11 |
| Глыбокае р.в. | - | 7 |
| Гарадок р.в. | - | 1 |
| Докшыцы р.в. | - | 1 |
| Дуброўня р.в. | - | 2 |
| Круляўшчызна | - | 1 |
| Ліёзна р.в. | - | |
| Лепель р.в. | - | |
| Міёры р.в. | - | 4 |
| Наваполацк гор. | - | 8 |
| Ворша гор. | - | 2 |
| Полацк гор. | - | 20 |
| Паставы р.в. | - | 4 |
| Расоны р.в. | - | |
| Сянно р.в. | - | |
| Талочын р.в. | - | |
| Ушачы р.в. | - | 2 |
| Чашнікі р.в. | - | 2 |
| Шаркоўшчына р.в. | - | 2 |
| Шуміліна р.в. | - | 2 |
| Усяго | - | 95 |

**Берасцейская вобласць**

| | | |
|---|---|---|
| Баранавічы р.в. | - | 14 |
| Бяроза р.в. | - | 6 |
| Белаазёрск | - | |
| Бярэсце гор. | - | 9 |
| Ганцавічы р.в. | - | 3 |
| Драгічын р.в. | - | 1 |
| Жабінка р.в. | - | |
| Іванава р.в. | - | 2 |
| Івацэвічы р.в. | - | |
| Камянец р.в. | - | 1 |
| Кобрын гор. | - | 2 |
| Лунінец гор. | - | 4 |
| Ляхавічы р.в. | - | 1 |
| Маларыта р.в. | - | 1 |
| Пінск гор. | - | 4 |
| Пружаны р.в. | - | 1 |
| Столін р.в. | - | 1 |
| Усяго | - | 50 |

**Гомельская вобласць**

| | | |
|---|---|---|
| Буда-Кашелёва р.в. | - | 2 |
| Брагін р.в. | - | 1 |
| Ветка р.в. | - | 1 |
| Гомель гор. | - | 38 |
| Гомель, РВПС | - | 2 |
| Добруш р.в. | - | 2 |
| Ельск р.в. | - | |
| Жыткавічы р.в. | - | 3 |
| Жлобін гор. | - | 3 |
| Калінкавічы гор. | - | |
| Карма р.в. | - | 1 |
| Лельчыцы р.в. | - | 1 |
| Лоеў р.в. | - | |
| Мазыр гор. | - | 3 |
| Нароўля р.в. | - | |
| Акцябарскі р.в. | - | |
| Петрыкаў р.в. | - | 2 |
| Рэчыца гор. | - | 3 |
| Рагачоў гор. | - | 2 |
| Светлагорск гор. | - | 12 |
| Хойнікі р.в. | - | |
| Чачэрск р.в. | - | 2 |
| Усяго | - | 78 |

**Гарадзенская вобласць**

| | | |
|---|---|---|
| Бераставіца | - | |
| Ваўкавыск гор. | - | 7 |
| Воранава р.в. | - | 3 |
| Гародня гор. | - | 35 |
| Гародня РВПС | - | 7 |
| Дзятлава р.в. | - | 6 |
| Зэльва р.в. | - | 3 |
| Іўе р.в. | - | 2 |
| Карэлічы р.в. | - | 4 |
| Масты р.в. | - | 7 |
| Наваградак гор. | - | 3 |
| Астравец р.в. | - | 2 |
| Ашмяны р.в. | - | 21 |
| Смаргонь гор. | - | 5 |
| Слонім гор. | - | 4 |
| Свіслач р.в. | - | 3 |
| Шчучын р.в. | - | 2 |
| Ліда | - | 27 |
| Усяго | - | 141 |

**Менская вобласць**

| | | |
|---|---|---|
| Беразіно р.в. | - | 2 |
| Барысаў гор. | - | 6 |
| Вілейка гор. | - | 5 |
| Валожын гор. | - | 6 |
| Дзяржынск р.в. | - | 4 |
| Жодзіна гор. | - | 6 |
| Клецк р.в. | - | 2 |
| Крупкі р.в. | - | |
| Капыль р.в. | - | |
| Лагойск р.в. | - | 5 |
| Любань р.в. | - | 5 |
| Менск гор. | - | 366 |
| Менск РВПС | - | 3 |
| Маладэчна гор. | - | 21 |
| Мядзель | - | 4 |
| Пухавічы РВПС | - | 7 |
| Нясвіж р.в. | - | 1 |
| Смалявічы р.в. | - | 1 |
| Слуцк гор. | - | 10 |
| Салігорск гор. | - | 7 |
| Старыя Дарогі р.в. | - | 2 |
| Стоўбцы р.в. | - | 4 |
| Узда р.в. | - | |
| Усяго | - | 471 |

**Магілёўская вобласць**

| | | |
|---|---|---|
| Бабруйск гор. | - | 5 |
| Бабруйск РВПС | - | |
| Бялынічы р.в. | - | |
| Быхаў р.в. | - | |
| Глуск р.в. | - | |
| Горкі гор. | - | 5 |
| Дрыбін р.в. | - | |
| Кіраўск р.в. | - | |
| Клічаў р.в. | - | |
| Краснаполле р.в. | - | |
| Крычаў гор. | - | |
| Клімавічы р.в. | - | 14 |
| Касцюковічы р.в. | - | 1 |
| Круглае р.в. | - | |
| Мсціслаў р.в. | - | 1 |
| Магілёў гор. | - | 15 |
| Магілёў РВПС | - | 1 |
| Асіповічы гор. | - | 6 |
| Слаўгарад р.в. | - | |
| Хоцімск р.в. | - | |
| Чэрыкаў р.в. | - | |
| Чавусы р.в. | - | |
| Шклоў р.в. | - | |
| Усяго | - | 48 |

## Беларускія СМІ пра беларускую мову

*Агляд і каментары Язэпа Палубяткі*

Беларуская культура — частка агульнарускай культуры, якая мае безумоўнае права на існаванне. І мова беларуская прыгожая. У лепшых сваіх узорах беларуская культура, сапраўды, годная. Асаблівы росквіт назіраўся ў савецкія часы, калі тую ж мову паднялі з небыцця.

**Юры Азаронак, аўтар фільма "Ненавісць "**
**ЛіМ. 26.06.98г.**

*Беларускія дзіцячыя садкі і школы знішчаюцца нібыта "па жаданні бацькоў", пад дэмагагічным лозунгам ледзь ці не абароны правоў чалавека. Скарачаецца выпуск беларускіх кніг. Пераводзяцца на рускую мову перадачы тэлебачання і радыё. Мова карэннага насельніцтва практычна не гучыць у дзяржаўных установах.*

***З заявы Рэспубліканскай Рады ТБМ.***

Агульнапрынятая норма ў мове — гэта тая норма, якой прытрымліваюцца журналісты, пісьменнікі, выдаўцы і з якой згаджаюцца чытачы.

**В.Вячорка**
**"Наша Ніва" 15 чэрвеня 1998г.**

*Таму, каб людзі былі здаровымі, трэба вельмі старанна захоўваць усе моўныя дыялекты на іх родных месцах, як і мову родную ў цэлым. Кожнае слова, напісанае нашымі пісьменнікамі на роднай мове, павінна быць прачытана (і не раз).*

***Валянцін Кляпко***
***Н.В. 27.06.98г.***

Беларус, які плоціць усе падаткі, не мае магчымасці ў сваёй дзяржаве набыць не толькі беларускамоўную відэакасету ці музычны кампак дыск, а нават беларускую паштоўку.

**Міхась Сазон**
**Наша Ніва № 12**

*Тарашкевіца, гэта таксама, як і герб са сцягам, ледзь не адзінае, што ў нас засталося. Гэта той падмурак, з якога паўстала (я ў гэтым упэўнены) сапраўдная беларуская дзяржава.*

***Юры Мандрык***
***Наша Ніва № 12***

Хутка будзем ставіць бюст на радзіме тага беларуса, які гаворыць на сваёй мове

**Уладзімір Верамейчык**
**Народная воля 7.01.98г.**

*Без мовы адукацыя не можа стаць нацыянальнай. Без нацыянальнай свядомасці не можа быць сапраўдных грамадзян, якія будуць дбаць пра сваю Радзіму. А без гэтага краіна не стане багатай, заможнай, аўтарытэтнай у свеце. А вось яе і выціскаюць са школы.*

***Мікола Дзелянкоўскі***
***Народная воля 1.07.98г.***

А аргументы накшталт таго, што народ на рэферэндуме прагаласаваў з імпэтам менавіта за такую моўную палітыку, няйначай чым абсурднымі проста не назавеш.

Адпаведнае рэферэндумаўская фармулёўка нагадвае пытанні пiянервaжатай з майго школьнага дзяцінства: "Каго больш любіш, радзіму ці маці? партыю ці бацьку?"

**Яўген Рагін**
**ЛіМ №23**

# БЛІЗКАЯ ГІСТОРЫЯ

**Паўсядзённае жыццё ў Беларусі: 1945 - 1965**

**Конкурс для школьнікаў**

Архіў Найноўшай гісторыі (пры Беларускім Гуманітарным Фондзе "Наша Ніва") пры ўдзеле Таварыства Беларускай Мовы імя Ф.Скарыны абвяшчае конкурс "Паўсядзённае жыццё ў Беларусі: 1945 - 1965".

Мы хочам зацікавіць школьнікаў гісторыяй паўсядзённасці блізкага для нас часу — мінулым сваёй сям'і, атачэння, населенага пункта . . . Мы хочам заахвоціць да самастойнай даследчай працы, якая патрабуе выкарыстання метадаў дзейнасці гісторыкаў і прыёмаў журналістыкі. У конкурсе могуць узяць удзел навучэнцы сярэдніх навучальных устаноў: школ (пачынаючы з сёмага класа), ліцэяў, гімназій, каледжаў, ПТВ, тэхнікумаў.

Блізкая гісторыя
Паўсядзённае жыццё ў Беларусі
1945-1965
КОНКУРС ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ

Форма конкурснай працы адвольная. Гэта можа быць сачыненне, альбо эсэ, калаж з фотаздымкаў, ці нават фільм, ітэрвію і г.д. Галоўнае, праца павінна мець творчы характар. У выпадку нятэкставаных формаў да працы павінна быць далучаная пісьмовая частка, якая адлюстроўвае працэс даследвання і збору інфармацыі.

Конкурсная праца падаецца на беларускай мове. Тэксты крыніцаў могуць падавацца ў арыгінале.

Праца можа быць падрыхтавана як індывідуальна, так і групай, самастойна альбо з дапамогай настаўніка, бацькоў, бібліятэкара і г.д. Да працы павінна быць абавязкова далучана метрычка.

Працу трэба даслаць у адным асобніку да 15 лістапада (дата вызначаецца па паштовым штэмпелі) на адрас: 220123, Менск, а/с 71.

Вынікі конкурса будуць абвешчаны 15 снежня 1998 года. Пераможцаў конкурса чакаюць прызы.

Усю патрэбную інфармацыю і парады можна атрымаць ад сакратара конкурса Ірыны Коваль (тэл.()!?") 77-46-25 з 7.00 да 8.00 і з 22.00 да 23.00 па панядзелках і чацьвяргах) па Менску і Менскай вобласці, а ў іншых рэгіёнах ад рэгіянальнага каардынатара конкурса ў Вашай мясцовасці. Звесткі пра каардынатараў будуць надрукаваныя ў мясцовай прэсе. Умовы конкурса ўжо друкаваліся ў газеце "Наша Ніва" (№ 10 за 1 чэрвеня 1998 г.).

Жадаем поспехаў.

# Хто вінаваты ў заціску беларускай мовы і школы

Крытычны стан нашай мовы бачны кожнаму. Адзіная надзея на яе адраджэнне праз школу на вачах гіне. Але ад прадстаўнікоў як мясцовай вертыкалі, так і вярхоўнай улады чуеш, што з іх боку ніякага ўціску няма, усё вырашаюць самі людзі на аснове імі ўхваленага права выбару мовы навучання сваіх дзяцей на рэферэндуме. І калі яны выбіраюць расейскую мову, а не беларускую, то гэта адпаведна сведчыць аб узроўні іхняй нацыянальнай свядомасці.

Фармальна сённяшняя ўлада сапраўды не прымае рашэнняў аб закрыцці беларускіх школ і класаў, і яна стаіць нібы ў баку ад гэтага працэсу. Але фактычна гэта вышэйшае кіраўніцтва краіны стварыла такія неспрыяльныя ўмовы для беларускай мовы і школы і надзвычай добрыя для расейскай. На ініцыяваным прэзідэнтам першым рэферэндуме было ўхвалена права выбару бацькамі мовы навучання дзяцей. На другім расейскай мове нададзены роўны статус з беларускай. За гэтыя прапановы прагаласавала рускамоўная большасць нашага насельніцтва. У выніку дзеяння гэтых фактараў з аднаго боку зрусіфікаваныя за савецкія гады бацькі свядома, а звычайныя беларусы змушаны абставінамі выбіраюць у школах расейскую мову навучання. З другога боку ўсе чыноўнікі і службоўцы па прыкладу прэзідэнта карыстаюцца штодзённа выключна прывычнай расейскай мовай і папракнуць іх у гэтым цяпер немагчыма. Вось такія спрыяльныя ўмовы для мовы суседзяў стварыла кіраўніцтва Беларусі і адкрыла неабмежаваныя магчымасці для выцяснення нашай мовы з ужытку ў сваёй краіне.

Што датычыць невысокай нацыянальнай свядомасці беларусаў, то адкуль ёй быць, калі нацыянальнае адраджэнне спынялася некалькі разоў як пры савецкай уладзе, так і цяперашнім кіраўніцтвам Беларусі. Думаецца, што людзі тут не вінаваты, бо свядомасць усё ж такі ёсць. Мяне здзіўляе, як у пачатку 90-х гадоў на Беларусі гарадскія школы надзіва хутка перайшлі на нашу мову навучання, бо бацькі зразумелі, што ў самастойнай і незалежнай краіне адукацыя павінна быць на роднай мове. Такім быў кірунак тагачаснай вышэйшай улады краіны, які паспяхова ажыццяўлялі работнікі Міністэрства народнай асветы, яго раённых аддзелаў, школ, за што яны заслугоўваюць высокай ацэнкі. У 1993 годзе ў Ашмянах адкрылі 12 першых беларускіх класаў і толькі 2 расейскія, бо ў нас жывуць прыезджыя мытнікі, памежнікі. Толькі ў 1994 годзе некалькі бацькоў запатрабавалі адкрыць яшчэ адзін расейскамоўны першы клас і перавесці на гэту мову другі клас. У Ашмянскай СШ № 1 яшчэ ў 1996 г. усе чатыры першыя класы заставаліся беларускімі, бо з 85 заяў рускую мову выбралі толькі чатыры бацькі. А вось у 1997 г. гэтую мову выбралі ўжо 61, а беларускую 45 бацькоў. Вось так праяўляецца нацыянальная свядомасць у людзей і так яна разбураецца антыбеларускімі ўплывамі ў нашай краіне, так яе перамагаюць антынацыянальныя тэндэнцыі, якія ідуць ад цяперашняй вярхоўнай улады Беларусі. Вось чаму яна павінна змяніць сваю пазіцыю да беларускай мовы і школы: стаць прыхільнай і рэальна падтрымліваць іх, дапамагаць.

*М.Пузіноўскі,*
*ветэран педагагічнай працы.*
*г.Ашмяны.*

# Чаму не выконваецца тое, пра што гаворыць міністр адукацыі ?

У газеце "Звязда" 31 студзеня былі змешчаны адказы міністра адукацыі Васіля Іванавіча Стражава на пытанні чытачоў, звязаныя з далейшым развіццём агульнаадукацыйнай школы. Мяне асабліва зацікавілі словы В.І Стражава аб лёсе беларускай мовы ў школе, таму што я працую настаўніцай у беларускамоўнай школе 82 горада Менска.

Сёння я хацела б вярнуцца да гэтых слоў міністра адукацыі, таму што тое, што адбываецца ў 82 школе зусім не адпавядае словам міністра.

***"Створаны ўмовы для гарманічнага суіснавання (моў навучання), прапагандуецца лепшы вопыт па па-шырэнню сферы ўжывання беларускай мовы ў школе.***

***В.І. Стражаў,***
***"Звязда", 31.01.98г.***

У 1991 годзе ў 82 школе былі адкрыты першыя беларускія класы. З гэтага ж года школа перайшла на навучанне дзяцей на беларускай мове. У 1995 годзе, калі ў іншых школах назіраўся масавы перавод беларускіх класаў на расейскую мову навучання, нам удалося захавць статус беларускамоўнай школы, дзякуючы цярплівай тлумачальнай рабоце з бацькамі, якую праводзілі настаўнікі, завуч пачатковых класаў, дырэктар.

Два з паловай гады назад у школу прызначылі новага дырэктара Салахітдзінаву Алену Сяргееўну, а год назад — новага завуча пачатковых класаў Іеўлеву Людмілу Пятроўну. З 1997 года пачалося разбурэнне беларускай школы.

Летам 1997 г. Салахітдзінава А.С. звярнулася ў Упраўленне адукацыі Менгарвыканкама па дазвол адкрыць у беларускамоўнай школе першыя класы з расейскай мовай навучання. Атрымаўшы такі дазвол, дырэктар Салахітдзінава А.С. і завуч Іеўлева Л.П. вырашылі, што беларускія першыя класы ім зусім не патрэбны. На 26 жніўня 1997 года бацькамі было пададзена 23 заявы ў клас з беларускай мовай навучання. Гэтым бацькам прапанавалі напісаць новыя заявы ў клас з расейскай мовай навучання. У верасні 1997 года ўпершыню за апошнія 7 гадоў у школе не было ні аднаго беларускага першага класа. Ні адзін першакласнік не вучыўся на беларускай мове.

18 лістапада 1997 г. дэпутаты Менскага гарсавета звярнуліся з дэпутацкім запытам да старшыні Мінскага гарвыканкама У.В.Ярмошына ў сувязі са станам беларускамоўнай адукацыі ў горадзе, дзе гаворыцца аб "ліквідацыі навучання па-беларуску". У звароце сярод іншых прыводзіцца і такі прыклад: "У школе № 82 закрылі ўсе першыя беларускія класы".

"Наша слова", 6.05.98г.

Зараз ідзе набор у першыя і падрыхтоўчыя класы на новы навучальны год. Адміністрацыяй школы не зроблена нічога, каб адкрыць хаця б адзін беларускі клас, значыць, і ў верасні 1998 г. ужо другі год у школе не будуць адкрыты класы з беларускай мовай навучання. Вось такое "гарманічнае суіснаванне" моў навучання ў пачатковых класах 82 школы.

***"Я перакананы, што адным з вынікаў рэформы будзе і значнае павышэння ўзроўню валодання беларускай мовай у нашым грамадстве".***

***В.І. Стражаў,***
***"Звязда", 31.01.98г.***

Цяжка пагадзіцца з аптымістычным выказваннем міністра адукацыі, таму што ўзровень валодання беларускай мовай перш за ўсё залежыць ад стаўлення да гэтай мовы. Дырэктар 82 школы ставіцца да беларускай мовы, як да перашкоды, ад якой трэба пазбавіцца. Неаднаразова ад яе можна было пачуць, што бацькі не хочуць аддаваць дзяцей у нашу школу, таму што яна беларускамоўная. Што ж можа прапанаваць бацькам 82 школа? Што зроблена дырэктарам для развіцця гэтай школы?

Разгорнем даведнік "Куда пойти учиться?", выдадзены ў 1997 годзе, рэкамендаваны Міністэрствам адукацыі, у якім змешчана інфармацыя пра ўсе школы г. Менска. Уражваюць разнастайныя кірункі работы школ, багатыя магчымасці, якія прадастаўляюць школы для навучання і развіцця вучняў. Для малодшых школьнікаў прапануецца вывучэнне замежных моў з 1 класа, класы з мастацкім ухілам, для старэйшых класаў адкрываецца перспектыва, даецца магчымасць атрымаць грунтоўную падрыхтоўку для працягу вучобы: класы з паглыбленым вывучэннем прадметаў, профільныя класы, факультатыўнае вывучэнне другой замежнай мовы, супрацоўніцтва з вышэйшымі і сярэднімі спецыяльнымі навучальнымі ўстановамі.

А вось што гаворыцца ў даведніку пра 82 школу:

"Язык обучения — белорусский. В школе изучается французский язык (с 5 класса). Открыты группы по обучению английского языка".

Калі ўлічыць, што англійская мова ў апошнія 3 гады ў школе не вывучаецца, то што застанецца?

За гады кіравання дырэктарам не зроблена нічога для развіцця беларускай школы. Замест таго, каб сістэматычна займацца развіццём школы, дырэктар абвінавачвае беларускую мову ў тым, што бацькі выбіраюць іншыя школы. Ці можа быць "значнае павышэнне ўзроўню валодання беларускай мовай", калі кіраўнік школы лічыць гэту мову непатрэбнай, галоўнай перашкодай у працы.

***" У апошнія гады ёсць пэўнае скарачэнне колькасьці беларускамоўных школ і класаў. Але мы будзем прымаць усе магчымыя меры, каб захаваць тое, што набылі, і пашырыць сферу ўжывання беларускай мовы".***

***В.І.Стражаў.***
***"Звязда", 31.01.98г.***

У гэтым навучальным годзе вучні другіх - сёмых класаў працягвалі вучыцца на беларускай мове. У канцы навучальнага года дырэктар 82 школы Салахітдзінава А.С. рашыла нанесці вырашальны ўдар па беларускай мове, па беларускіх класах. 29 мая 1998 года на апошнім сходзе настаўнікаў яна з гонарам, з выглядам пераможцы аб'явіла аб тым, што ў яе ёсць заявы бацькоў некалькіх класаў аб пераводзе дзяцей на расейскую мову навучання: гэта другія класы, чацвёртыя класы і іншыя. Летам яна збіраецца ісці з гэтымі заявамі ў Заводскі раённы аддзел адукацыі, каб вырашыць гэта пытанне.

На прыкладзе аднаго класа будзе зразумела, як збіраліся такія заявы. Пасля бацькоўскага сходу настаўніца 4 "В" класа прынесла дырэктару 18 заяў аб пераводзе дзяцей на расейскую мову навучання. Што зрабіла дырэктар Салахітдзінава А.С., якая была прызначана ў беларускую школу і нясе адказнасць менавіта за беларускую школу? Яна высветліла прычыны такога жадання? Яна паспрабавала сама або з дапамогай настаўнікаў пераканаць бацькоў у неабходнасці працягваць навучанне па-беларуску?

– Не, Салахітдзінава А.С. тут жа загадала настаўніцы патэлефанаваць усім іншым бацькам і прынесці ёй усе заявы.

З'яўленне заяў бацькоў аб пераводзе дзяцей на расейскую мову навучання пасля таго, як дзеці некалькі гадоў вучыліся ў беларускіх класах, — гэта яскравая ацэнка ўсёй дзейнасці, а дакладней бяздзейнасці, дырэктара Салахітдзінавай А.С. у беларускай школе.

Так у 82 школе прымаюцца "усе магчымыя меры, каб захаваць тое, што набылі, і пашырыць сферу ўжывання беларускай мовы".

У сувязі з фактамі ліквідацыі навучання па-беларуску ў 82 школе ўзнікае пытанне, вынесенае ў загаловак гэтага артыкула. Чаму міністр адукацыі В.І.Стражаў гаворыць аб дзяржаўнай падтрымцы беларускамоўнага навучання, а ў 82 школе за апошні навучальны год падрыхтавана ўсё для ліквідацыі цэлай беларускамоўнай школы ?

Чытачы газеты "Звязда" задавалі міністру адукацыі трывожнае пытанне: "Які лёс беларускай мовы ў школе?"

Далейшы лёс беларускамоўнай школы 82 г.Менска і будзе рэальным, практычным адказам на гэта пытанне.

**Людміла Сінькевіч**
**1.07.98г.**





# Сустрэчы ў Рымдзюнах

12-13 чэрвеня ў вёсцы Рымдзюны, Астравецкага раёна, адбыўся Міжнародны "круглы стол" разгледзеўшы пытанні адукацыі і культуры пад назвай "Беларусы ў Летуве, летувісы ў Беларусі: праблемы адукацыі, выхавання і культуры". Спіс арганізатараў і ўдзельнікаў гаворыць пра даволі вялікае значэнне гэтай падзеі: Міністэрства адукацыі Беларусі, Міністэрства адукацыі і навукі Летувы, Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Беларусі, Дэпартамент па рэгіянальных праблемах і справах нацыянальнасцяў пры ўрадзе Летувы, Гарадзенскі аблвыканкам, Астравецкі райвыканкам, Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Францішка Скарыны, Летувіская асацыяцыя беларусаў, Беларускі педуніверсітэт імя Максіма Танка, Віленскі педуніверсітэт, Рэспубліканская грамада летувісаў Беларусі, Згуртаванне беларускіх грамадскіх арганізацый у Летуве, выкладчыкі летувіскіх школ (на тэрыторыі Беларусі. аўт.) у в. Рымдзюнах, в.Пелясе, г.Гародні і інш., навукоўцы з Менска і Вільні. Мне, як аднаму з удзельнікаў гэтага круглага стала, уразіла многае з таго, што разглядалася на працягу тых дзён. Таму неабходнасць асвятлення гэтай сустрэчы падштурхнула выказаць свае меркаванні не толькі, як аднаго з выступоўцаў па навуковаму паведамленню, але і як сябра Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.

Па-першае, самым прыемным была шчырая гасціннасць гаспадароў. З першых хвілін усе ўдзельнікі былі абкружаны дабрынёй і ветлівасцю. Адчувалася, што нібыта турботная гаспадыня сустракае сваіх лепшых гасцей, як бліжэйшую радню. Гэта і было так. Гаспадары прыходзіліся ўсім удзельнікам лепшымі сябрамі не толькі па тым, што жылі побач і ў суседніх дзяржавах, але і тым, што шматвекавая агульная гісторыя Летувы і Беларусі генетычна заклала ў нашай падсвядомасці дабрыню і шчырасць ў адносінах друг да друга. Гэтыя словы выказаны мною нездарма, а таму, што на працягу двух дзён узнікаўшыя праблемы несупярэчнасцяў ускрытыя па пастаўленых пытаннях круглага стала ніколі не выклікалі непрыязнасці, а наадварот, адчувалася ўстойлівая тэндэнцыя добразычлівасці ўсіх удзельнікаў. Таму асвятляючы са свайго ўласнага боку некаторыя крытычныя сітуацыі ўзнікаўшыя ў Рымдзюнах, ні ў якім чыне не выказваю ніводнага адмоўнага пачуцця да ўсіх удзельнікаў — прадстаўнікоў дзяржаўных і грамадскіх арганізацый. Але штосчасна ўзнікала аднае горкае адчуванне абыякавасці нашай дзяржавы да некаторых праблемаў летувісаў у Беларусі і беларусаў у Летуве, нягледзячы на старанне людзей, якія жывуць у абедзвюх краінах зрабіць, усё найлепшым чынам. Спакваля думалася што б ні рабіла нашая дзяржава, то ўсё ішло насуперак найлепшаму накірунку спраў. А пачалося ўсё з часоў не вельмі даўніх.

Яшчэ ў пастсавецкі час пачаліся мерапрыемствы па падтрымцы ў адукацыі летувіскамоўнага насельніцтва пражываўшага кампактна ў некаторых паселішчах Астравецкага раёна і захаваўшымі нацыянальную свядомасць, як прадстаўнікоў свайго народа. Былі закладзены падмуркі летувіска-беларускага адукацыйнага цэнтра ў Рымдзюнах. Вядома, што ў той час савецкія ўлады больш-менш, але ўдзялялі нейкую ўвагу на станаўленне добрасуседства народаў. Хоць і выкарыстоўвалася гэтае, у асноўным для прапагандысцкіх мэтаў, але маленькія крошкі гэтай працы дасягалі сваіх асноўных спажыўцоў, тых людзей што жылі паобач. Але настаў час "вялікіх" змен названых камуністамі-рэфарматарамі "перабудовай" і ход усёй працы па ўмацаванню добрасуседства і нацыянальнага выхавання сваўх суайчыннікаў выявіў сапраўдныя адносіны суседніў дзяржаў.

Работы па ўзвядзенню будынка адукацыйнага цэнтра спыніліся. Па сведчанню многіх недзяржаўных прадстаўнікоў, асноўны фінансавы і будаўнічы цяжар прыняў лтувіскі бок. Беларуская дзяржава ставілася так, нібыта ва ўзвядзенні адукацыйнага цэнтра былі зацікаўлены толькі летувісы. Калі пачаліся будаўнічыя працы, то на беларускай мяжы сталі перашкаджаць правозу якаснай летувіскай цэглы. Гэты інцыдэнт быў выказаны не толькі галосна на круглым стале некаторымі яго ўдзельнікамі, але і падтвердзіўся пры апытанні мною мясцовага насельніцтва. Такое стаўленне нашай дзяржавы паказвала не толькі абыякавасць да названага цэнтра, але і з'явілася прэлюдыяй адносна далейшых дзеянняў краіны да нашай дыяспары ў Летуве. Усплёск нацыянальнай самасвядомасці, падчаўшыйся ў 90-х падштурхоўваў беларусаў у Летуве стварыць не толькі згуртаванні рознага рода беларускіх грамадскіх арганізацый, але і беларускіх школ. У Вільна адкрылася беларуская школа імя Ф. Скарыны. І з першых жа дзён яе існавання ўзнік шэраг пытанняў, у асоўным фінансавага характару. Я б сказаў, што толькі дзякуючы намаганням яе настаўнікаў і дырэктара Галіны Сівалавай, школа яшчэ існуе. Беларускі бок не прыклаў аніякіх намаганняў у дапамозе сваім суродзічам. Дзяржава адвярнулася не толькі ад летувісаў у Беларусі, але і ад беларусаў у Літве. Складаецца ўражанне, што пытанні нацыянальнай самасвядомасці і адукацыі народаў якія пражываюць на тэрыторыі Беларусі і свайго народа на тэрыторыі Летувы агідныя для Беларускай дзяр-жавы. У гутарках з летувіскімі беларусамі яны выказвалі не толькі здзіўленне, але і непрыязнь да дзеянняў беларускага боку. Яны прыводзілі прыклад, як наша дзяржава пускае пыл у вочы людзям. У пасольстве Беларусі, якое з'яўляецца адным з самых вялікіх у Вільні, прыёмная сакратаршы, пакоя на адну персону, вялізарная і аздоблена як найлепшыя палацы. Вельмі добра, што нашае пасольства ўяўляе сабой веліч, як сымбаль нашае дзяржавы, але яе веліч вызначаецца адносінамі да сваіх суайчыннікаў як гэта робіцца ва ўсім свеце. Цікава, што грошы на Беларускае прадстаўніцтва знайшліся, а для беларускіх дзетак у Летуве іх няма, як і для летувіскіх і беларускіх дзетак у тых жа Рымдзюнах. Уся гэтая занепакоеннасць выказваецца мною не для таго каб кальнуць родную дзяржаву. Не трэба нам быць апошнімі ў свеце ні па культурнаму ўзроўню, ні па адносінах да нас суседзяў і іншаземцаў. Прэстыж нашае дзяржавы — гэта прэстыж і да яе грамадзян. Усё узаемазвязана. Як нашая дзяржава ставіцца да нас, беларусаў, так і не толькі мы, але і ўвесь свет ставіцца да яе. Шкада, што імкненне беларусаў не знаходзіць падтрымцы з боку дзяржавы. Магчыма, што гэтыя дзеянні дзяржавы і выклікаюць адэкватныя адчуванні нацыянальна свядомых беларусаў. Толькі разумная палітыка дзяржавы ў павялічэнні нацыянальнай самасвядомасці сваіх суайчыннікаў замацуе тую уладу, якая стаіць начале. Шматвекавы досвед усяго свету паказвае, што прыгнячэнне і знішчэнне нацыянальнай годнасці прыводзіць да краху таго, хто праводзіць такую палітыку.

Круглы стол завяршыўся прыняццем пастанаўлення і зваротам да адпаведных зацікаўленых арганізацый адносна ліквідацыі ўзнікшых недарэчнасцяў у праблемах адукацыі, выхавання і культуры. Гэта быў, так сказаць, афіцыйны, неабходны ў дадзеным выпадку дакумент. Вядома, ён патрэбны, але аформлены даволі нейтральна адносна пасылаў да нашай дзяржавы. Мяне, грамадзяніна Беларусі, турбуе занепакоенасць, што не ўсе праблемы ўзнікшыя ў ходзе асвятлення круглага стала будуць вырашаны станоўча. Аб гэтым сведчыць уласнае назіранне ходу нашага жыцця, жыцця ад якога мы не адвернемся ніколі і нідзе.

*П.Русаў. Сябра ТБМ, гісторык.*

# "З НАШАГА, БЕЛАРУСКАГА ПОГЛЯДУ..."

Слушныя думкі і прапановы знайшоў у артыкуле Леаніда Гаравога "Актыўна шчыраваць дзеля роднага слова "("НС", 24.06,98г.), але не магу пагадзіцца з яго прапановай-заклікам спыніць крытыку Міністэрства адукацыі. Не згладжвае здзіўлення, выкліканага пасажам аўтара, і прадпасылка замоўчвання у працы ведамства: "калі мы жадаем з установамі адукацыі працаваць дзеля нашай Беларусі". Канешне ж, жадаем! Сваю цягу да супрацоўніцтва з імі ТБМ, як вядома, пастаянна пацвярджае канкрэтнымі справамі. А што ў адказ? Больш паловы кіраўнікоў ВНУ нават не адгукнуліся, нягледзячы на неаднаразовыя просьбы, на ліст-запыт Таварыства пра стан беларускамоўнасці ў іх установах. Сорамна было чытаць і пра тое, як кіраўніцтва дэканата эканамічнага ўніверсітэта выгнала на вуліцу Менскую гарадскую Раду грамадскай арганізацыі, і пра іншыя ганебныя факты.

Такое адбываецца таму, што цяперашняя палітыка Мінадукацыі ў пытанні мовы навучання не супадае з высакароднай мэтай ТБМ — пашырыць ужытак роднага слова ва ўсіх сферах нашага жыцця. Пра гэта сведчыць не толькі мэтанакіраванне знішчэнне беларускага школьніцтва, але і эвалюцыя поглядаў міністра В.Стражава па моўным праблемах. У сваіх першых інтэрвію пасля прызначэння на гэтую пасаду (1994 год) ён ці не ўрачыста абяцаў развіваць адукацыю на нацыянальнай аснове. Нават у чорныя травеньскія дні 1995 года запэўніваў чытачоў "Голаса Радзімы" (№21) і ўсіх беларусаў, што "галоўная задача сёння — гэта адраджэнне беларускай мовы". І далей: "Калі расейская мова будзе мець афіцыйны статус... трэба будзе больш намаганняў аддаць распаўсюджванню беларускай мовы". І пасля рэферэндума нейкі час бадзёра казаў: "Не павінна ўзнікаць пытання аб тым, што дзяржава не будзе аказваць падтрымку развіццю беларускай мовы. Будзе, абавязкова будзе!" ("Звязда",25.08.95г.). У гэтай жа гутарцы міністр паведаміў: прэзідэнт пагадзіўся з яго "прапановай аб стварэнні новай дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы", дзеля чаго ўжо створана камісія, якая вось-вось пачне працаваць.

Пазней у сваіх разважаннях іншы раз рабіў, вобразна кажучы, з белага чорнае. Напрыклад, ранейшае "галоўнае дасягненне" ( пашырэння нацыянальнай сістэмы адукацыі, у тым ліку пераход да беларускамоўнага выкладання) перайначыў у нешта накшталт "дзівацтва". Але ўсё яшчэ час ад часу мы чулі, што міністэрства "прымае неабходныя меры па захаванню беларускай мовы як мовы навучання і выхавання ва ўсіх тыпах навучальных установ". ("Звязда", 4.06.96г.). У апошнім жа інтэрвію В.Стражава гаворка ўжо ідзе толькі аб адсутнасці жадання ў Міністэрства і ўрада скараціць магчымасці навучання на беларускай мове. ("Звязда", 27.06.98г.). Скарачэнне, між тым, ідзе-плыве сваёй чаргой. Праўда, міністр заўсёды спасылаецца на "патрабаванню бацькоў", але чамусьці чуе іх выключна тады, калі яны вымушаны (або іх вымушаюць) аддаваць перавагу расейскай мове, і не звяртае ўвагу на тых, хто адстойвае права на беларускамоўнае навучанне (яскравы прыклад - падзеі вакол Беларускага гуманітарнага ліцэя).

Чытаючы чарговае яго інтэрвію або выступленне, кожны раз нагадваю другога дзеяча Беларусі ў галіне адукацыі — Антона Васілевіча Баліцкага. На пасадзе народнага камісара асветы ён прапрацаваў крыху больш за тры з паловай гады (1926 -1929г.г.) — прыкладна столькі, колькі ўжо кіруе міністэрствам Васіль Іванавіч Стражаў. (Абодва яны спачатку былі і намеснікамі — адзін наркома, а другі міністра). Але калі тадышні Наркамат асветы з'яўляўся своеасаблівым штабам па кіраўніцтву беларусізацыяй, дык цяперашняе ведамства адукацыі фактычна займаецца супрацьлеглай дзейнасцю. Адпаведныя лічбы і факты змяшчаюцца ў кожным нумары "Нашага слова". Характэрна, што сам апарат Наркамасветы ўжо ў 1927 годзе быў беларусізаваны, паводле гістарычнай літаратуры, на 100% (усе астатнія наркаматы - ад 30 да 50%). Не ведаю дакладна, як ідзе справа на гэты конт у апараце, якім кіруе В.Стражаў, але калі нядаўна давялося пахадзіць па міністэрскіх кабінетах і калідорах, дык не пачуў там ніводнага беларускага слова. (Можа. мне проста не пашанцавала?).

А.Баліцкі, які рабіў усё магчымае для адраджэння роднай мовы, увайшоў у гісторыю не толькі як адзін з творцаў і праваднікоў палітыкі беларусізацыі, але як і ахвяра бальшавіцкага рэжыму — ён абвінавачваўся ў так званым нацыянал-дэмакратызме. А што напішуць пра дзейнасць В.Стражава, калі ў краіне карэнным чынам зменіцца палітыка-грамадская сітуацыя і стане прэстыжна ведаць беларускую мову?

На жаль, пакуль што сапраўдных патрыётаў Айчыны ў нас лічаць людзьмі другога сорту, прышываюць ім розныя зневажальныя ярлыкі. А якая, дарэчы, розніца паміж патрыятызмам і нацыяналізмам? Вядомы расейскі дзеяч кінамастацтва Мікіта Міхалкоў так адказаў на гэта пытанне ў маскоўскіх "Известиях" (1.07.98г.): "Нацыяналізм — гэта калі ў сваім самасцвярджэнні адціскаешся на кімсьці другім і любіш сваё за кошт другога. Патрыятызм — гэта калі сваё любіш і не замінаеш іншым любіць сваё". На мой погляд, нацыяналізм па Міхалкову больш нагадвае шавінізм. Прынамсі, людзей, якія дрэнна ставяцца да прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў, трэба шукаць не сярод нацыянальна свядомых беларусаў, а ў асяродку тых, хто імкнецца зрабіць нашых землякоў рускімі па мове, культуры, ладу жыцця.

Тое, што робіцца з карэннай нацыяй Беларусі, называюць па-рознаму: Русіфікацыя, асімілятарства, дэнацыяналізацыя, этнацыд (школьны) і пад. Гэтыя словы нярэдка можна сустрэць на старонках дэмакратычных выданняў. А вось у выпушчаным паўтара годы таму "Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы", дзе налічваецца звыш 70 тысяч лексічных адзінак, яны не падаюцца. Праўда, слова "дэнацыяналізацыя" ёсць, але растлумачваецца толькі адно яго значэнне,не звязанае са стратай нацыянальных асаблівасцяў. Калі з гэтай нагоды перафразаваць вядомы выраз сталінскіх часоў, дык атрымаецца так: няма слова - няма і праблемы (з'явы). Не ўключаны ў кнігу і такія зненавідныя для беларусафобаў паняцці, як ***беларусізацыя, беларускасць, беларушчына***, і нават даволі нейтральныя: ***беларусізм, беларусіст, беларусістыка.*** Затое ***расізм, русізм, русіст, русістыка*** ёсць. А слоўнік жа, паўтаруся, не расейскі, а наш, беларускі!

Пэўныя сілы ўсё павялічваюць уціск і беларускай перыёдыкі, у прыватнасці, у пытаннях мовы публікацыі матэрыялаў. Мне ўжо даводзілася пісаць наконт таго, што адзіная штодзённая беларускамоўная газета "Звязда" 18 красавіка надрукавала пасланне прэзідэнта да парламента па-расейску (гэта было ўжо не ўпершыню). Роўна праз два месяца, 18 чэрвеня, у ёй зноў на той жа мове з'явіўся вялізны матэрыял - праект Жыллёвага кодэкса, які заняў амаль дзве трэці плошчы газетнага нумара. І калі раней рэдакцыя тлумачыла недарэчныя учынкі тым, што расейскамоўны тэкст( яе вялікасць "мова арыгінала"!) атрымлівала непасрэдна перад здачай нумара, дык цяпер не было і такога "апраўдання". Справа ў тым, што праект прыняты "палатнікамі" яшчэ 20 траўня, і магчымасці для яго перакладу на мову выдання былі, такім чынам, добрыя. Але рэдакцыя, відаць, не праявіла ні настойлівасці, ні цвёрдасці і дазволіла сабе ў чарговы раз не выканаць свой прамы абавязак перад беларускамоўнымі чытачамі, якіх у "Звязды" пераважна большасць. Памыляецца той, хто думае, што гэта не дужа прынцыповае пытанне. Менавіта так, крок за крокам, няўхільна і паўсюдна выцясняецца родная мова і насаджваецца расейская. Асабліва брыдка, калі гэта творыцца з дапамогай старэйшай беларускай газеты.

. . . Пагадзіцеся, і ў нашы дні надта актуальным паўстае выказванне вялікага Купалы, якое было надрукавана яшчэ ў 1919 годзе ў газеце "Беларусь": "...З нашага, беларускага погляду ўсе гэтыя плебісцыты і сходы бацькоў (наконт мовы навучання.Г.Л.) ёсць ні што іншае, як дэмакратычная камедыя, каторая людзі прыкрываюць сваё нячыстае сумленне".

*Генадзь Л[illegible]овіч.*

# “Невядомы нікому паэта...”

## Міхасю Явару 95 гадоў

Родная вёска Міхася Карася (Явара) Мінявічы Мастоўскага раёна. Вызначаецца яна тым, што размясцілася на высокім прыгожым беразе Нёмана. Хаты адшнураваліся тут у адзін шэраг, а паміж імі і высачэзным абрывам да ракі вузенькая дарога, вясковая вуліца.

Нарадзіўся Міхась у 1903 годзе. Дзяцінства прайшло ў роднай вёсцы, а з 1915 года прымусовае бежанства. Там і адчуў юнак вялікі сум па родным Нёмане, па багатых беларускіх лясах, па нашых палях-паласяках. Пачуццё выключнасці родных Мінявічаў не пакідала М.Явара праз усё жыццё. Вярнуліся з бежанства, а тут усё казакі спалілі, каб не пакінуць немцам. На полі бераэнячок пачаў падымацца. У дарозе абрабавалі бальшавіцкія, а пасля польскія пагранічнікі. Рук не было за што зачапіць. Зямлі мала, а сям'я вялікая, маці, малодшы брат Васіль і сёстры Люба ды Вольга. Міхась пачаў рыбачыць на Нёмане. Хлопец быў змысны, спрытны ды працавіты. Ён ведаў рыбныя месцы, вывучыў сакрэты жыравання рыбаў, іх паводзіны ў розныя поры года, у рознае надвор'е. Рыбы ён лавіў шмат і прадаваў яе гандлярам ды службоўцам з мястэчка Луна.

Быў вельмі акуратны, заўсёды сціпла, але ахайна адзеты, паголены, чысты. Хоць меў невялікую адукацыю (тры класы), але многія лічылі яго інтэлігентам. Ён ім быў: вёў вялікую асветна-патрыятычную дзейнасць, пісаў вершы, якія друкаваліся ў часопісе "Шлях моладзі", у беларускіх газетах, арганізоўваў вечары з пастаноўкай п'ес, з песнямі ды танцамі, сам цудоўна спяваў.

Ягоны аднагодак Хведар Макарчук распавядаў мне ў 1967 годзе:

— Аднойчы я на беразе Нёмана лавіў вудай рыбу, а тут выязджае на чоўне Міхась і як салавей, захапіўся песняй, што і мяне спачатку не заўважыў, а як убачыў, што я яго чую, то збянтэжыўся і неяк вінавата запытаўся: "Як, Хведар, ці атрымліваецца ў мяне штосьці-колечы?"

— Што ты, Міхась, ты ж выдатна спяваеш!

А тут па беразе ішлі дзве багатыя дачніцы. Адна з іх прапанавала:

— Заспявай яшчэ — дам залатоўку.

— Дам дзве, каб толькі не спяваць для Вас: нашы песні не прадаюцца.

Так, Міхась быў прынцыповы і бескампрамісны чалавек.

За рыбу купіў радыёпрыёмнік. У яго збіралася моладзь і з асалодай слухала родную мову з Менску.

Асаблівую актыўнасць Міхась выявіў у грамадоўскія дваццатыя гады: быў актыўным дзеячом Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады. Ён, выдатны прапагандыст, спявак, паэт, карыстаўся велізарным аўтарытэтам у навакольных вёсках.

Аднойчы ў Мікулаў спыніўся на кватэру землямер-паляк. Мясцовых сялян лічыў дзікунамі, імкнуўся не кантактавацца з моладдзю. Аднойчы вечарам да Мікулаў зайшоў Міхась. Неяк уцягнуў у гутарку і землямера. Прадыскутавалі яны гадзін дзве. Калі Явар пайшоў, паляк гаспадару хаты сказаў:

— Нігды не мысьлялэм, жэ на всі сон тацы монджы людзе. - Пасьля гэтага землямер часта хадзіў да Міхася Явара, да моладзі на вечарыны. Ён вельмі высока ацаніў культуру паводзін нашых хлопцаў ды дзяўчат. Ён аднойчы сказаў: "Культура всі бялорускай выжша, богатша як культура польскіх хлопув. Песень бялоруска бардзей жыцёва, навэт пенкнейша."

Міхась Явар вельмі любіў песню "Нёман" на словы Янкі Купалы, "Люблю наш край" Канстанцыі Буйла, "Зорка Венера" Максіма Багдановіча і, вядома ж, народныя песні.

Міхася моцна кахала настаўніца-полька з вёскі Каўшы. Ён спачуваў ёй, сябраваў зь ёю, але кахаў Мікулу Анісю. Яна была стрыечнаю сястрою мае мамы і часта прыходзіла да нас. Ад яе я яшчэ ў дзяцінстве пачуў пра талент Міхася Явара, пра ягоную дабрыню.

Бацькі Анісі не дазволілі выходзіць замуж за Міхася, бо ў хлопца былі сухоты, якія тады не вылечваліся. Бацька не хацеў, каб дачка засталася ўдавою. Не вылечная хвароба, нацыянальная трагедыя беларускага народа давялі маладога патрыёта да самгубства. Міхась спадзяваўся, што Савецкая Беларусь дапаможа ўз'яднаню усяе Беларусі, адраджэнню нашай слаўнай калісці дзяржавы. Тэрор, развязаны камуністамі ў канцы 20-х гадоў супраць беларускіх патрыётаў, вельмі балюча ўспрымаўся паэтам.

24 чэрвеня 1933 года быў прыгожы сонечны дзень. Анісся перамывала зелле для жывёлы ў нёманскай вадзіцы. А цяпер з кошыкам падымалася па сцяжынцы на круты і высокі нёманскі бераг. Насустрач спускаўся Міхась. Ён узяў дзяўчыну за руку і запытаўся:

— Ці ты хочаш жыць ?

— Я баюся смерці, — адказала Анісся.

— То жыві сабе, жыві, — ціха і пяшчотна праказаў Міхась.

Ён падышоў да грушкі, што расла на беразе Нёмана, скінуў каптан, акуратна паклаў яго воддаль і выстраліў сабе ў грудзі. Ягоная



сястра здагадвалася, што брат можа застрэліцца. Яна падкралася да яго і, як ён страляў, штурхнула яго ў локаць. Гэта спрычынілася да таго, што куля не трапіла ў сэрца, і Міхася завезлі на лекі ў гарадзенскі шпіталь. Памёр паэт 27 чэрвеня.

У 1968 годзе у Гудзеўскім музэі створаны стэнд, які знаёміць наведвальнікаў з цяжкім лёсам блізкага земляка-паэта.

За асабістыя грошы ўдалося заказаць у скульптара Станіслава Быка два бюсты Міхася Явара (адзін для Луненскага музея ахвяраваны намі ў 1968 годзе, а другі ўстаноўлены ў нашым). Гэта выклікала шаленства ў партыйнага кіраўніцтва. Была наладжана татальная праверка працы Гудзеўскай школы, кожнага яе працаўніка. У праверцы прымалі ўдзел інспектары і загадчык РАНА, райкама партыі, райкама камсамолу, дырэктары школ і інш.

На савеце РАНА, які праводзіўся ў Гудзеўскай школе пасля праверкі, я сказаў што факты фальсіфікуюцца, што хоць загадчык РАНА сцвярджае, што ні ў кога з настаўнікаў на ўроках не было нагляднасці, аднак гэта хлусня, бо і ў мяне, і ў матэматыкаў, і ў біёлага нагляднасць на ўроках была. Напэўна, яна была і ў іншых настаўнікаў. Дык як жа можа загадчык РАНА Рында Мікалай Іванавіч паведамляць няпраўду? Як яму верыць?

Рында сказаў:

— Если бы мы приехали вас награждать, то конечно такого я не сказал бы, но приехали проверять вас с марксистско-ленинской точки зрения.

Я здзівіўся ўголас, што марксісцка-ленінская праверка патрабуе ілгарства.

Тады я звярнуўся да Савета РАНА, настаўнікаў, грамадскасці з такімі словамі:

У сваёй кнізе "Чалавек мяняе скуру" член КПЗБ польскі пісьменнік Бруно Ясеньскі за эпіграф узяў прыкладна такія словы: "Не бойся свайго ворага". (У гэты час я паказаў рукою назагадчыка РАНА Рынду)Ён хоча мае гібелі. І я ведаю гэта. Таму ён мне не страшны. Не бойся сваіх сяброў. І паказаў рукою у бок настаўнікаў, якія мне дарычылі пісаць ліст у ЦК, а на савеце РАНА ўсе па чарзе сказалі, што не памятаюць такога сходу і такога галасавання. Яны рана ці позна прададуць мяне.

Бойся людзей абыякавых, якія прагаласуюць і за тое, каб мяне ўзнагародзіць, але прагаласуюць, каб і забіць. Гэта самыя страшныя людзі, бо з іх дазволу робіцца зло.

Ведаецё, дырэктар трэцяй школы Арцімовіч і інспектар РАНА Ваглай выступілі ў маю абарону. І мне замест суровай вымовы запісалі: "Указать на самавольныя действия". Дырэктару школы суровую вымову, бо дазволіў у школьным памяшканні ўстанавіць "бюст какого то Явора", а намеснікам дырэктара па вымове, бо нядаўна працуюць на кіруючых пасадах. Бюст Явара загадана было "из школьного помещения убрать". Пасля па маёй персоне яшчэ былі тры саветы РАНА і запісана была суровая вымова з апошнім папярэджаннем за тое, што "Белакоз работает не по советским программам. Надо менять или советские программы или Белокоза". А ўся мая віна была ў тым, што на тэму "Францішак Скарына" я адвёў не палавіну ўрока, як патрабавала праграма, а два ўрокі.

Толькі пры дапамозе беларускіх пісьменнікаў удалося ў музеі захаваць бюст Міхася Явара. Нават на свой страх і рызыку ўдалося паціхеньку паставіць помнік з таўшчэзнага дубу, на якім пад фатаграфіяй і надпісамі прымацавана пліта з нержавелай сталі, на якой выбіты словы з паэмы Міхася Явара "За сэрцам":

— Так загінуў чалавек
за тое, што ў гэты, о ў дваццаты век
Пасмеў сказаць у вочы, смела,
Што ён таксама чалавек.
Спі, мучанік,
Бо твае грудзі ўжо знайшлі спакой сабе.
Няхай жа лёгкім пухам будзе
Зямелька родная табе,
Якую шчыра ты любіў,
Дзе шмат страдаў
Ды мала жыў
Міхась Явар"

У 1991 годзе пашчасьціла выступіць на сесіі Луненскага местачковага савета (праўда, цяпер чамусці называюць не местачковы, а сельскі савет). Я расказаў дэпутатам пра жыццё Міхася Явара, прачытаў ягоныя вершы.. Пасля гэтага дэпутаты аднагалосна выказаліся за тое, каб у мястэчку Луна вуліцу Энгельса называць вуліцай Міхася Явара. З гонарам і прыемнасцю праходжу па гэтай вуліцы. Няхай хоць адна мае беларускую назву.

Творчая спадчына Міхася Явара амаль уся загінула. Перад смерцю куфэрак са сваімі вершамі і паэмамі паэт занёс свайму сябру Мікулу Вінцуку. Гэтага чалавека немцы ў час акупацыі шукалі. Жонка, баючыся, каб немцы не знайшлі вершаў Міхася Явара, усе архівы паэта зьнішчыла. Засталося толькі тое, што друкавалася ў заходне-беларускіх часопісах ды газетах.

Праўда, апошні верш Міхася Явара жанчына перад тым, як паліць архіў, вывучыла на памяць. Яна расказала мне яго, просячы прабачэння, што можа штосці перайначыла ці прапусціла. Прайшло многа гадоў, а чалавечая памяць абмежавана.

Застрэліўся Міхась Явар 24 чэрвеня 1933 года. Моладзь палічыла, што ў смерці Міхася Явара вінавата Анісся. Ёй аб'явілі байкот. Ніхто з ёю не размаўляў, не браў танцаваць, не заходзіў у хату. Дзяўчына вымушана была ісці за першага, хто пасватаўся.

Міхася хавалі пры вялікім наплыве народу, у самым пачэсным месцы. Было многа прамоваў. Прайшоў час. Нават школа забылася пра яго.

Праўда, старшыня Луненскага сельсавету Карповіч Валянціна Мікалаеўна зацікавілася лёсам паэта, паставіла на ягонай магіле каменны помнік, а настаўнік Машталерскай школы Брыцько Уладзімір Уладзіміравіч са сваімі вучнямі пасадзіў ад вуліцы Міхася Явара да Радзівонаўскага лесу абапал дарогі срэбралістыя вярбы.

Веру, што памяць пра шчырага беларускага патрыёта Міхася Явара не загіне ў нашым рэгіёне. Яна не можа згінуць ужо таму, што хоць нямнога яго вершаў захавалася, але яны ёсць. Не забываем жа мы Паўлюка Багрыма, хоць з ягонай літаратурнай спадчыны дайшоў да нас адзін толькі верш.

Вялікае значэнне творчасці Міхася Явара ўжо ў тым, што ягоныя творы ў змрочныя для ўсяе Беларусі трыццатыя вучылі любіць і наш ласкавы вецярок, і задуменны Нёман, і выцалаваныя Нёманам берагі, і паважаны, спакойны лес, і "ясныя зоркі — сьвятыя вагні", і "мілыя, родныя песні", і "родныя ціха-салодкія гукі".

У вершах "Вечар", "Зіма". "Гукі далёкія", "Ружы і салавей", акрамя шчырага беларускага патрыятызму, выказваецца пратэст супраць бязмэтнага жыцця, ягонай жорсткасьці, нацыянальнага і сацыяльнага ўціску. Тут усюды адчуваецца заклік да змагання, клопат пра вызваленне роднага краю.

Вось адзін з вершаў са спадчыны Міхася Явара.

5 траўня 1993 г.
в.Гудзевічы
Алесь Белакоз.

"Шлях Моладзі" № 7-8
Ліпень-жнівень 1933г.

**Міхась Явар.**

**ВЕЧАР.**

Вечар. Ціха кругом;
Ужо над родным сялом
Гоман сціх, цішыня і Спакой,
Вецярочак прыціх
І ў садочках пустых
Не шапочуць лісткі між сабой.
Нёман ціха маўчыць —
Усё бяжыць ды бяжыць
З краю роднага ў край дзесь другі.
У развітанні з ім,
З краем родным сваім
Усё цалуе свае берагі.
Цёмны лес за ракой
Не парушыць спакой,
Думкі думае ціха свае ...
Але хто іх пайме ?
Але хто адгадае ? —
Не згадаць іх ніколі, о не!
А з гары ўсё блішчыць
Усё гараць, зіхацяць
Ясны зоркі — святыя вагні,
Усё чагосці дрыжаць
Усё маргаюць, глядзяць, —
О таемныя зоркі мае !
— "Брат, даволі ўжо спаць" —
Дзесці у лесе чуваць:
Хтосці сумна, маркотна пяе, —
Гукі сумна дрыжаць
Гукі плачуць, ляцяць
Так далёка наўкол у цішыне ...
— "Глянь, кругом барацьба" —
Зноў чуваць, а сям'я
Цёмных хвояў ўсё ўторыць яму.
Гукі сумна дрыжаць,
З скаргай, помстай ляцяць
Дзесь далёка ў прастор, у вышыню.
А за імі стралой
Па-над лесам тых хвой,
Душа рвецца ў нязведаны край,
Лётам птушкі тужы.
Дзе ні слёз ні нуды,
Дзе пануе вясна, вечны май!
Да таемных тых зор!
Дзе няма той нуды,
Крыўды, гора-бяды,
Што пануюць на нашай зямлі.

**Часовы выканаўца абавязкаў рэдактара Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.

*Рэдакцыйная рада:*
Генадзь Бураўкін — старшыня,
Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі,
Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля,
Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко,
Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

*Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацый.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 20. 07. 98 г.
Наклад 3000 асобнікаў. Замова № 1675.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.